# Рабочы Бабруйска

№ 19 (60) 31 мая – 6 чэрвеня 2001г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213807, Бабруйск, а/с 25. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.


ПОСЛЕДНИЙ ЗВОНОК

## Выпускник 2001

Вот и настал долгожданный момент, когда после мучительного учебного года из дверей родной школы вываливаются толпы уставших детей, уставших, но таких счастливых.

Радости недавних школьников нет предела, а для празднования появляется масса изысканных и не очень по своей развёрнутости и масштабности идей. Многим из нас, однако, придётся сюда вернуться и дотянуть лямку среднего образования до конца. Но есть люди, безгранично довольные своей жизнью – это выпускники. Сейчас они веселятся и смеются, смотрят на остальных снисходительным взглядом, который


Фото IREX/ProMedia

обнадёживающе говорит о том, что через год или два, или большее количество лет вместе предстоит пережить счастливый момент прощания с детством, с учителями, с любимым директором.

После выпускного вечера, где проявляется весь актёрский талант ничего о нём не подозревающих девушек и парней (ведь очень сложно изобразить грусть, боль и слёзы), они будут гулять всю ночь, а поутру, при хорошей погоде, встречать первый рассвет свободной жизни. И момент, когда их лиц коснутся золотые лучи ласкового солнца, останется в памяти на всю жизнь.

**К сожалению, ещё не выпускница.**

БАБРУЙСКІ ТЫДЗЕНЬ...

## ... паводле Алёны АНДРЭЕВАЙ



Апошнія дзянёчкі нашай прыгожай вясны, першай вясны трэцяга тысячагоддзя сыходзяць у гісторыю, забіраючы з сабою вельмі добрыя рэчы, якія дарагі не аднаму-двум чалавекам, а як мінімум тысячы-дзвюм людзей. Падзеяў, што паглынула мінулае апошнім тыднем, не шмат, але вось некаторыя з іх.

У сярэдзіне тыдня скончылася галадоўка адважнай жанчыны Алены Захожай, што такімі радыкальнымі метадамі адстойвала свае канстытуцыйныя правы. У яе трэба павучыцца ўсім баязліўцам, каму за 35, бо зараз не час баяцца. Гэтым годам мы не мусім баяцца, мы мусім з годнасцю адстаяць нашу Беларусь, якая ўжо сем гадоў чакае нас. Можа, гэтай восенню дачакаецца?

18 траўня гісторыі дасталіся дзве цікавыя падзеі: першая – святкаванне дня музеяў мясцовай арганізацыяй Маладога Фронту. Спачатку паўдзесятка маладзёнаў разнеслі віншаванні ў музей вязняў палітычнага рэжыму і ў краязнаўчы музей. А пасля праводзіліся "лятучыя" перформэнсы, у якіх удзельнічалі «Першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь», Сталін, Гітлер. Усё заканчвалася адпраўленнем АГЛ у музей.

Другая – фінал традыцыйнага конкурсу "Вучань года-2001". У пятніцу высветлілася, хто ж самы разумны і таленавіты сярод навучэнцаў школ, тэхнікумаў, вучэльняў, каледжаў. Спаборніцтва праходзіла, на жаль, у не вельмі справядлівых умовах, і журы праяўляла сваё савецка-саўкоўскае паходжанне, але, тым не менш, імпрэза была цікавая.

У суботу жудасна пагоршылася надвор'е, і ўсе дачнікі і садаводы-агароднікі-гараджане не ведалі, як ратаваць любыя памідорчыкі-агурочкі, што займаюць ганаровыя месцы ў адкрытым грунце. З тае пары надвор'е ніяк не можа адумацца. Надвор'е! Хутчэй мяняйся, нам усім хочацца цёплага лета!

19 траўня да нас завітвалі дзіўныя хлопцы "Лепрыконсы" з не менш дзіўнай па назове праграмай "Все ребята перцы". Кажуць, народу спадабалася, бо незадаволенымі з "Рэлаксу" не сыходзяць.

Таксама ж у суботу пачалася пара справаздачных канцэртаў розных творчых студый горада. Цягнецца яна да сённяшняга. "Адчыталіся" ўжо "Юность", "Шына-най", "Бліскавіца".

Гэтым жа тыднем я звярнула ўвагу на твары людзей на вуліцах. Ведаеце, мне не давялося сустрэць ані адной шчырай усмешкі. Твары людзей ледзь не скошаныя ад цяжару праблемаў, але тым не менш, мне хочацца сказаць: ЛЮДЗІ!!! Хаця б раз на дзень тэрмінам на гадзіну адкідайце ўсе вашыя праблемы і проста ўсміхайцеся, будзе прыемна і вам, і нам, а жыць ад гэтага долей будзеце вы... А, можа, і мы...

Усяго вам!

ШКОЛА

## Лепшы вучань года

Высвятляць, хто ж лепшы, праводзіць усялякага кшталту спаборніцтвы – гэта ўсё засталося нам у спадчыну ад "чырвоных" продкаў, стаханаўцаў, ад нашых бабуль ды дзядуль. Але гэтыя, на першы погляд (роўна як і на другі), глупствы бываюць вельмі забаўнымі для вока звычайнага абывацеля. Вось, напрыклад, аддзел па справах моладзі бабруйскага гарвыканкама праводзіць штогодна конкурс "Лепшы вучань года". Як правіла, складаецца гэта спаборніцтва з двух тураў: інтэлектуальнага і творчага. Да ўдзелу ў першым запрашаюцца найбольш разумныя і актыўныя ў пазакласным жыцці навучэнцы школаў, вучэльняў, тэхнікумаў, каледжаў. А па выніках першага конкурсу вызначаюць лепшых з лепшых, самых разумных і запрашаюць праявіць свае таленты на вялікай сцэне.

Вось і гэтым годам такое спаборніцтва адбывалася. Пра першы тур наша газета паведамляла вам, паважаныя чытачы, а 18 траўня ў памяшканні гарадскога дома афіцэраў прайшоў творчы (другі) конкурс на званне лепшага вучня года. У ім прынялі ўдзел 6 навучэнцаў школ, каля 12 чалавек, што навучаюцца ў вучэльнях, каледжах, тэхнікумах. Імпрэза гэта была даволі цікавая, бо ўсе намінанты выкладваліся "на ўсе сто", паказвалі шматграннасць свайго таленту, праяўлялі ўсе свае майстэрствы. На сцэне спявалі, танчылі, расказвалі показкі. Амаль напачатку імпрэзы ўсіх удзельнікаў конкурсу прыехаў павіншаваць Уладзімір Пуцін, але, каб бабруйскаму гледачу было зручней успрымаць прамову, папрасіў перакладчыка. З якой мовы на якую? З рускай на нашу родную, беларускую! Гэта было сапраўды цікава, бо адну-дзве рэплікі Ілжэпуціна перакладчыца, напэўна, каб паказаць маляўнічасць нашае мовы, перакладала сказамі пяццю, а то і болей.

Таксама на сцэне з'явіўся і Макс Галкін, але замест мільёна ён прапанаваў выйграць пуцёўку ў БДПА (што, на мой погляд, для абітурыента не горш).

Часцей за ўсё на сцэне былі жарты і прыколы. Як вы думаеце, з каго больш за ўсё смяялася моладзь? Не, не з АГЛ (можа б, і пасмяялася, але педагогі, што дапамагалі ў сцэнарнай працы, не прапусцілі б такіх жартаў. Баяцца, як-ніяк), а з ... ну канечне ж, міліцыянтаў. Яны былі амаль што як у жыцці, нават казалі такія ж глупствы. Толькі не мелі права паздзеквацца з каго-небудзь пасапраўднаму, вось і ўсё іх адрозненне. Спаборніцтва вялося не зусім чэсна, бо жыццё застаецца жыццём і на сцэне, і па-за ёю, і нават за сталом журы. Але як бы то ні было, забаўлялі публіку ўсе на поўную моц. А пасля пераможцы атрымалі за свае намаганні каштоўныя прызы: фотаздымачы, фотаальбомы.

Такім чынам, нават спаборніцтва, якое зыходзіць карэннямі далёка ў чырвоную гісторыю, змагло шчыра пазабавіць бабруйчан. Вось бы ўсе прыколы "чырвоных", што яшчэ так упэўнена сядзяць у нашым грамадстве, прыносілі такое ж задавальненне гараджанам і грамадзянам нашай краіны.

**Алёна АНДРЭЕВА.**



## Школьникам – учёную степень

24 мая в СШ-10 было проведено мероприятие под названием "День науки". Дело в том, что в начале учебного года в вышеназванной школе было образовано некое Научное общество учащихся, члены которого, обыкновенные школьники 9-10-ых классов, работали над темами в определённых научных сферах. И теперь, в конце года, пришло время пожинать плоды этих трудов. Участники и слушатели разошлись по 3-ём аудиториям: историко-краеведческой, физико-математической и филологической секциям. Ребята провели действительно титаническую работу и были вознаграждены ... почётными грамотами. Наверное, это не очень много, но директор школы Михеева Г.В. считает, что главная задача была выполнена. А задача эта – пробудить у детей интерес к науке, к знаниям и научить обращаться с информацией. Предполагается проводить "День науки" каждый год и превратить это в традицию СШ-10.

Что ж, желаем успехов!

**М. ЛОМОНОСОВА.**

ДЗЯЦІНСТВА

## Калі б я раптам стаў дарослым...

***Хутка Дзень абароны дзяцей. Ці абараняем мы гэтых маленькіх, прыгожых, літаральна лялечных істот? Ці тое яны часцяком нас абараняюць? У жыцці бывае рознае, таму што на тое яно і жыццё.***

***Іншым разам у нас, дарослых, не хапае ні часу, ні розуму, каб прыдумаць тое, што прыдумваюць дзеці. Можа, калі б у кіраўнічых структурах сядзелі дзеці, нам бы лепш жылося? Бог яго ведае. Але вось што зрабілі б дзеці, калі б былі дарослымі, мне вядома. Прапаную колькі адказаў дзяцей на пытанне: "Калі б я быў дарослым, я б зрабіў...":***

*Светлана, 9 лет:*
– Надо ещё дожить. Я бы сделала детский сад.

*Дарья, 9 лет:*
– Я бы сделала много "МакДональдсов" в Бобруйске и игрушечные магазины. А ещё сделала бы так, что б никто не был бедным.

*Дима, 10 лет:*
– Если б я был взрослый, я бы запретил продавать сигареты и водку, а ещё отремонтировал бы дороги.

*Кристина, 10 лет:*
– Я бы построила дома и улицы.

*Алина, 9 лет:*
– А я бы сделала много красивых домов.

*Анастасия, 9 лет:*
– Я бы поступила в музыкальное училище, а потом вышла бы замуж и помогала бы бедным людям.

*Витя, 10 лет:*
– Я запретил бы продавать наркотики. А ещё отремонтировал бы школу.

*Виктория, 9 лет:*
– Я бы стала миллионером.

*Ольга, 9 лет:*
– Я бы создала коллекцию картин для музея.

*Артур, 10 лет:*
– Если б я был взрослым, я бы защищал свою Родину и помогал бы всем старым людям.



*Ратмир, 9 лет:*
– Пошёл бы зарабатывать деньги. Женился бы, купил машину, квартиры, компьютер.

*Влада, 10 лет:*
– Я бы хорошо училась в университете.

А асабіста мне спадабаўся адказ аднаго хлопчыка, імя якога *Дзіма, яму 10 год:*
– Я бы искал работу для жены.

Як вам, паважаныя чытачкі, гэта падабаецца. Вы ж паглядзіце, хто вырастае з маленькіх хлопчыкаў – дэспаты!

А яшчэ б дзеці ажаняліся б, адпачывалі, высыпаліся б, працавалі б, дапамагалі бацькам, будавалі б дамы і кватэры ў тысячу квадратных метраў... Вы ўявіце сабе, як бы цудоўна мы жылі. А можа, мы так і будзем жыць, толькі трэба дачакацца, пакуль вырастуць гэтыя чараўнікі і чараўніцы з добрымі сэрцамі.

Вучыцеся ў сваіх дзяцей наіўнасці, шчырасці, дабрыні, даражэнькія бацькі, і будзе нашмат лягчэй жыць усяму свету!

**Алёна АНДРЭЕВА.**

*P.S. Цікава, што дарослыя, якіх мы запыталі: «Што б вы зрабілі, каб зноўку сталі дзецьмі?» – нічога адказаць не здолелі. Толькі параілі нам не займацца глупствам. А адна жанчына сказала, што яна будавала б замкі з пяску.*

# Рабочы Бабруйска

Наклад 299 ас. Паштовая адраса: 213 809, Бабруйск, а/с 11. Некоторые материалы нашей газеты вы можете прочесть на www.bobruisk.net


ПЕРСОНА

## Михаил Ковальков: "За свободными профсоюзами – будущее"

**Во всем цивилизованном мире свободные профсоюзы – давно уже привычное, естественное явление (зависимых, подконтрольных кому-то или чему-то, кроме, конечно, закона, профсоюзов там просто не может быть – это противоречит демократическим принципам, общественным нормам цивилизованных стран). В Беларуси же, еще не изжившей тяжелое советское наследство, в которой у власти по-прежнему находится старая партийная номенклатура, свободные профсоюзы вынуждены бороться за свое "место под солнцем" – несмотря на то, что всегда находились в правовом поле, опирались не только на международные, но и на свои, отечественные законы, в том числе закон РБ "О профессиональных союзах". Бобруйск в этом плане не является исключением. Рассмотрим положение свободных профсоюзов в нашем городе на примере самой многочисленной первичной организации Свободного профсоюза Беларусского (СПБ), созданной на заводе тракторных деталей и агрегатов (ТДиА).**

**На наши вопросы отвечает председатель заводского свободного профсоюза Михаил КОВАЛЬКОВ.**

***— Когда и с какой целью на заводе был создан СПБ?***

— Мы устали терпеть бездействие официального заводского профсоюза автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, который не решал назревших проблем трудового коллектива, не добивался от администрации полного выполнения коллективного договора, поскольку в значительной степени сам зависит от нее.

В марте 1998 года на ТДиА прошло учредительное собрание, была создана первичная организация Свободного профсоюза Белорусского, избран председатель и совет СПБ. Как и у любого профессионального союза, наша основная цель – защита законных прав и интересов работников завода, в первую очередь, членов нашего профсоюза. Хотя, следует отметить, мы помогаем всем работникам предприятия независимо от их профессиональной принадлежности.

***— Ощущали ли вы, другие члены Свободного профсоюза, какое-то давление со стороны руководства завода?***

— Поначалу нет. Давление началось после проведенной нами в августе 1999 года акции протеста по поводу двухмесячной задержки заработной платы и отпускных. К слову говоря, тогда мы добились своего: зарплата и отпускные тут же были выплачены.

Использовался, например, небезызвестный метод "кнута и пряника". Так, мне поступали неофициальные предложения оставить СПБ и возглавить заводской профсоюз автосельхозмашиностроения, а иначе... На членов нашего профсоюза стало оказываться психологическое давление: собрали рабочих в цехе и всячески "обрабатывали" их. Были и прямые угрозы. Некоторых членов профсоюза предупредили: будешь состоять в СПБ – пойдешь на улицу. Директор завода Владимир Волоткович в сентябре 1999 года распорядился не удерживать членские взносы СПБ через бухгалтерию предприятия. Фактически директор объявил Свободному профсоюзу войну.

***— Есть ли какие-то отрицательные последствия для СПБ от избранной администрацией завода тактики?***

— В результате давления на членов СПБ (что является прямым нарушением закона РБ "О профессиональных союзах"), некоторые испугались за себя, за свое будущее и написали заявление о выходе из СПБ. Но само это давление свидетельствует о том, что администрация нас боится, хотя нас не надо бояться, с нами надо сотрудничать.

***— Скажите, какова нынешняя численность СПБ завода ТДиА?***

— В настоящее время в Свободном профсоюзе предприятия 200 человек. Всего же на заводе чуть более 2000 работников.

***— Чем СПБ занимается сейчас?***

— Основная забота дня сегодняшнего – заключить коллективный договор с администрацией завода, пройти процедуру регистрации в горисполкоме (в министерстве юстиции РБ мы давно уже зарегистрированы), чему власти, опять же в нарушение действующего законодательства и норм международного права, всячески препятствуют. Сложилась довольно интересная ситуация: для регистрации в горисполкоме от нас требуют (дополнительно к другой поданной документации) справку о том, что директор завода предоставляет нам юридический адрес. Директор же, конечно, с радостью отказывается. Получается замкнутый круг: директор завода, ссылаясь на то, что СПБ не зарегистрирован в горисполкоме, отказывается заключать с нами коллектив-



(Продолжение на 2-й странице.)

## Юбилейная выставка бобруйских художников



25 февраля в Выставочном зале открылась выставка, посвященная 50-летию творческих мастерских. Бесспорно, это знаковое событие и не только для нашего города, а и для республики, что вполне осознавалось всеми присутствующими. Открытие выставки прошло в тёплой, уютной атмосфере созданной заботливыми стараниями директора выставочного зала Светланы Приваловой, директором художественных мастерских Ивана Черкашина, и председателем Бобруйской организаций Беларусского союза художников Валерия Колтыгина.

Среди гостей были представители городских властей, заслуженный работник культуры минчанин Эдуард Агунович, студенты, творческая интеллигенция Бобруйска. Выступающие отмечали то особое братство художников, что давно уже сложилось в нашем городе.

Своеобразной передачей эстафеты стало награждение грамотами победителей Всемирного конкурса "Дети мира рисуют Танах" (Старый завет) — студийцев образцовой детско-юношеской студии "Радуга". В честь Ильи Банщикова, Никиты Никифорова, в Библейском саду, на холмах Иерусалима посажены деревья с именной подписью. Очень символично, что эстафета молодым художникам передана на юбилейной выставке, на рубеже столетий. Ведь именно им предстоит творить в новом тысячелетии.

**Любовь БИДЮК.**

КРИМИНАЛ

## МНЕ ОТМЩЕНИЕ И АЗ ВОЗДАМ

Почти шекспировские страсти разгорелись в выходной день на бобруйском колхозном рынке. Одна из покупательниц, пожилая женщина-пенсионерка, заглянув в мясной ряд, узнала в продавщице ту самую "обидчицу", что неделей раньше якобы неправильно дала ей сдачу. Пенсионерка набросилась на нее с проклятиями и стала подробно ей объяснять, "где раки зимуют". Продавщица за словом в карман тоже не полезла. Накал страстей был такой, что все вокруг плавилось. По-видимому, исчерпав все аргументы в пользу своей правоты, пенсионерка схватила с прилавка разделочный нож и принялась в запальчивости им размахивать, в конце концов полоснув им свою обидчицу по руке. Из пореза хлынула кровь, раненая работница торговли была вынуждена ретироваться. Милиция задержала "народную мстительницу", заведено уголовное дело. Ввиду своего возраста и неопасности для остального общества под стражу она не была взята, но дело вскоре будет передано в суд, который определит меру наказания пенсионерке-"воительнице".

## ПО БОБРУЙСКУ ХОДИТ МАНЬЯК?

В течение трех дней — 14,15 и 16 февраля — неизвестный злоумышленник обливал бобруйских девушек и женщин кислотой. Происходило это в утренние часы. Молодой мужчина, которого никто из пострадавших не успел хорошенько рассмотреть, предположительно, 25 лет, высокий, худощавый, с темно-русыми волосами незаметно подходил сзади к молодым привлекательным девушкам и женщинам и обливал (обрызгивал) их пока не установленной кислотой или щелочью, используя для этого, по версии следствия, медицинский шприц. На сегодняшний день милицией зарегистрировано восемь таких случаев. По четырем из них возбуждено уголовное дело — злостное хулиганство и за умышленное уничтожение или повреждение имущества. По остальным фактам проводится проверка.

Все началось 14 февраля (в День влюбленных!) в поликлинике №1. Среди потерпевших — медсестры и посетительница. Сначала жертвой, судя по всему, маньяка стала 25-летняя медсестра, у нее ожоги обеих голеней. Затем пострадала студентка художественного училища — ожоги правой руки 1-2 степени. А через час с небольшим жертвой становится еще одна медсестра — ожоги голени и бедра. Потерпевшим была оказана медицинская помощь, но ввиду легкости телесных повреждений никого не госпитализировали. Остальные случаи происходили на улице — в районе, примыкающем к поликлинике. У пострадавших была повреждена верхняя одежда, у двоих из них также зафиксированы небольшие ожоги. Милиция проводит активные розыскные мероприятия, создан оперативный штаб, работает следственно-оперативная группа. Уже есть несколько подозреваемых. Но преступник еще на свободе.

**Антолий САНОТЕНКО.**

# Михаил Ковальков: “За свободными профсоюзами – будущее”

(Окончание. Начало на 1 стр.)

ный договор. А горисполком не регистрирует нас, ссылаясь на отсутствие у СПБ юридического адреса. Как говорится, рука руку моет. Более того, городские власти в лице заместителя председателя горисполкома Виктора Горбанева, к нашему удивлению, практически не реагируют на разъясняющее данный “сложный” вопрос письмо министра юстиции Республики Беларусь Г.Н.Воронцова (с которым, между прочим, согласился Совет Министров РБ). Оно настолько интересно и поучительно, что имеет смысл привести его полностью: *“Действующее законодательство не содержит такого понятия, как юридический адрес”, и тем более не связывает юридический адрес с обязательным предоставлением помещения.*

*Поэтому отказ исполнительных комитетов в регистрации или постановке на учет организационных структур профсоюзов по тем основаниям, что якобы работодателем не предоставлено помещение организационной структуре, является неправильным.*

*В соответствии с пунктом 21 Правил оформления и рассмотрения документов, предоставляемых для государственной регистрации политических партий, профессиональных союзов, иных общественных объединений, а также постановки на учет и государственной регистрации их организационных структур, утвержденных министром 15 июля 1999 года, при постановке на учет или регистрации организационных структур профсоюзов достаточно представление подтверждения наличия юридического адреса организационных структур, как то, протокола организационного собрания о создании первичной организации и в случаях, оговоренных Уставом, протокола республиканского органа профсоюза о создании оргструктуры профсоюза”.*

***— Кто-то помогает Свободному профсоюзу работников завода ТДиА в решении стоящих перед ним сложных задач?***

— Большую юридическую помощь оказывает нам Бобруйский информационно-правовой центр, куда, к слову говоря, за бесплатной юридической помощью в защите своих прав может обратиться любой желающий. **Адрес Центра: 6-й микрорайон, бульвар Прибережинский, 28, к 10. Тел. 55-81-78.**

***— Михаил, каким вам видится будущее свободных профсоюзов в Беларуси?***

— Я верю, мы пройдем через все препятствия, создаваемые нынешними властями, — и организационные структуры СПБ будут в нашей республике повсюду. Я твердо убежден: за свободными профсоюзами – будущее. Иначе и быть не может.

**Беседовал Анатолий САНОТЕНКО.**

# НДС отменен. Талоны под вопросом

Как уже сообщал “Рабочы Бабруйска”, с 12 февраля по решению стачечного комитета общереспубликанская забастовка частных предпринимателей приостановлена. На сегодняшний день известно: власти, ссылаясь на “технические” ошибки в документах, отменили НДС и объявили до 1-го апреля мораторий на штрафы, конфискации, возбуждение уголовных дел по повторным нарушениям... Подготавливается проект, отменяющий талоны (и, как приятное следствие, штрафы из-за талонов). Другие свои требования предприниматели могут изложить до той же “смешной” даты – 1-го апреля. Так что же, победа? По указанным пунктам – похоже, что да. Но радоваться предпринимателям, конечно, рано: слишком много проблем, созданных властями, остается еще у них, слишком часто эти самые власти, пообещав что-либо, обманывали, брали свои слова обратно.

Как и у всех “нормальных” частных предпринимателей, хватает таких проблем и у бобруйчан. Председатель недавно созданной в нашем городе первичной организации свободного профсоюза предпринимателей **Дмитрий Назаренко** так определяет требующие незамедлительного решения задачи СПБ: отмена разрешения на торговлю, существующего только в нашем городе, отмена “привязки” торгового места и фиксированного налога (сейчас от выкупившего место ч.п. требуют заплатить фиксированный налог, пусть даже он и не торговал, — болел, например). Так что работы у свободного профсоюза предпринимателей хватит, наверное, не только до 1-го апреля. И это, к сожалению, вполне серьезно.

**Анатолий САНОТЕНКО.**

# “Хит” сезона: Яков Науменко – мэр Бобруйска!




**Бобруйчане выбирают себе мэра.**

Забавный случай произошел на состоявшемся недавно в нашем городе единственном концерте известного певца и композитора, заслуженного артиста Республики Беларусь Якова Науменко.

Концерт, проходивший в КСК “Шинник”, был в полном разгаре, когда певец предложил присылать ему на сцену записки, пообещав за каждую из них календарик с собственным фото. Зрители вдохновенно взялись за работу, и в этот вечер записками Бог певца не обидел (а зрителей – календариками). Одно из таких посланий немало удивило Якова Павловича. Кто-то из зрителей написал ему: “Оставайтесь, будьте нашим мэром”. “Такого мне еще ни в одном городе не предлагали”, – искренне признался певец. Далее он стал фантазировать: “Если бы я был вашим мэром, то прежде всего улучшил бы в городе и за его пределами, особенно со стороны Мозыря, дороги”.

Что ж, доброе дело задумал Яков Павлович. Подумать только, какая жизнь была бы при Науменко-мэре: с песнями, с хорошими дорогами, без всяких там непонятных коней, растущих не по дням, а по часам, с общей культурой выше среднего...

Жаль только, мэров в наших городах пока не выбирают.

**А.ТИХОМИРОВ.**

**В ТЕМУ**

# “Ход конем”

Бобруйск! О, сколько раз тебя я
Смотрел, как фильм, или как сон,
Из раза в разик повторяя:
“Форштат... 6-й микрорайон...”
Мне было времени не жалко,
Да и теперь - скажу ли “чур”?
Опять: “Дзержинка”... “Социалка”...
Опять “Шаманка”... “Байконур”...
Вот – тихой Скрипочки извивы.
Вот хитрой
Титовки вилок.
Лоскутик рынка озорливый.
Вокзала пестрый хохолок.

Всё здесь открыто человеку,
Всё с ним на “ты”, накоротке:
И танк, что целится в аптеку,
И Вовка с кепкою в руке,
И, в стороне лихой, суровой,
Где спят под плитами гробы,
На стыке Минской и Крылова -
Конёк, встающий на дыбы.
С ним рядом – кадровый военный,
Под ними подлая змея.
И штык солдатский
дерзновенный
В кишку вонзается ея.

Ну а внизу,
по хлипкой тропке,
С опаской движется народ.
Наверх он взгляд бросает робкий
И фантазирует: “Вот-вот
Солдат на коника заскочит,
Ему штыком почешет бок
И устремится, что есть мочи,
К чертям собачьим, на Фандок,—
Туда, где солнце в синей глине,
Где лес растет из тишины...
Там коник рухнет и загинет
В пучине злой Березины”.

**Дмитрий РАСТАЕВ.**

**В ТЕМУ**

# Дзяржаўная палітыка ці выпадковасць?

Выходзячы з кнігарні, кожны раз раблю выснову, што з нас нехта імкнецца зрабіць вар’ятаў. Блукаючы позіркам па рознакаляровым вокладкам і крыклівым назвам кніг, мне з кожным разам усё цяжэй і цяжэй знайсці роднае слова, якое застанецца ў маёй памяці і будзе грэць душу. Упэўнены, што ў тых 3,7 мільёнаў беларусаў, якія размаўляюць дома па-беларуску, і ў тых 82% беларусаў і 18% небеларусаў, якія назвалі беларускую мову роднай падчас апошняга перапісу насельніцтва, тыя ж праблемы.

Бабруйскія кнігарні здзіўляюць! Такое адчуванне, што тыя, хто займаецца кніжным гандлем (амаль усе кнігарні ў нашым горадзе дзяржаўныя), ніколі не чыталі змяненні і дапаўненні да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, за якія самі галасавалі на рэферэндуме 1996 года. Нагадаю, што ў артыкуле 17 асноўнага дакумента нашай краіны напісана: “Дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з’яўляюцца беларуская і руская мова. Але нажаль толькі запісана. Пасля вышэй узгаданнага рэферэндума выпуск беларускамоўных кніг з кожным годам памяншаецца, а колькасць расійскамоўных кніг павялічваецца. У мінулым годзе на Беларусі кніг на рускай мове выйшла ў 8 разоў больш, чым на беларускай.

Пад час маёй апошняй вандроўкі па бабруйскім кнігарням я задаваў два пытанні:

“Ці ёсць у вас кнігі на беларускай мове?”

“Ці ёсць у вас дзіцячыя кнігі на беларускай мове?”

У большасці выпадкаў гандляркі кнігамі на адно з маіх пытанняў давалі адмоўны адказ. Найбольш уразіла крама “Ваенная кніга”, на паліцах якой не знайшлось ніводнай беларускамоўнай кнігі.

Цікава, у якой краіне жывуць і ў якой краіне служаць чыноўнікі, адказныя за кніжны гандль? Прадчуваю не раз гучаўшы адказ: “Книги на белорусском языке у нас не пользуются спросом”. Хлусня, спадары чыноўнікі! Нажаль, вы не бачылі, як праходзіла прэзентацыя кнігі Уладзімера Арлова і Генадзя Сагановіча “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі” у нашым горадзе. Нажаль, вы не ведаеце, як мае сябры і знаёмыя, прачытаўшы кнігі Уладзімера Караткевіча з маёй бібліятэкі, шкадавалі, што не могуць набыць гэтыя кнігі. Нажаль, вы не разумееце, што правадыры прыходзяць і сыходзяць, а Беларусь і беларуская мова застаюцца!

**Алесь ЧЫГІР.**

# БШК “Белшына” у 1999 годзе

Падведзены вынікі фінансава-гаспадарчай дзейнасці БШК “Белшына” ў 1999 годзе. Вось некаторыя лічбы.

Тэмпы росту таварнай прадукцыі да ўзроўню мінулага года склалі 103,8%. Вытворчасць спажывецкіх тавараў павялічылася на 8%. Рост прадукцыйнасці працы склаў 103,6%. Вытворчыя магутнасці камбінату былі загружаныя на 74,6%.

Геаграфія экспарту была традыцыйнай і разнастайнай – ад Усходняй і Заходняй Еўропы да Азіі і Амерыкі. Сярэдняя заработная плата па камбінату склала за год 27,1 млн. рублёў.

Новы год камбінат пачаў з працяглага прастою. Стабільнай працы прадпрыемства, як заўжды, перашкаджае адсутнасць сыравіны, ды яе несвоечасовая дастаўка. Ці ўдасца паўтарыць нядрэнныя паказчыкі 1999 году, прадказаць зараз цяжка.

**Віктар КАЧАН.**

# Заатэррарыум

У студзені – лютым у Доме афіцэраў прайшла выстава жывых экзатычных жывёл свету. Жадаючыя маглі пабачыць шматлікіх змей, павукоў, чарапах і нават сфатаграфавацца з якім-небудзь пітонам. Асаблівую цікавасць гледачоў выклікалі тры маленькія малпачкі. Амаль кожны юны наведвальнік спрабаваў пацягнуць іх за хвост, ушчыпнуць, тыкнуць нагой, пачаставаць цукеркай ці графітавым алоўкам. Час ад часу, адыходзячы ад клетак на некалькі метраў папаліць, арганізатары выставы пазіралі на гэтыя забавы паблажліва. Дарэчы, як і правадыр сусветнага пралетарыяту з партрэтаў на сцяне.

**Віктар КАЧАН.**